№ 5(101)
Сакавік 2002

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"

## Вопіс маёмасьці

6 сакавіка ў Віцебску судовыя выканаўцы апісалі маёмасьць у кватэры бацькоў лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца. Гэта зьвязана з апошнім адміністратыўным спагнаньнем Паўла Севярынца — прысудам вялізнага штрафу ў 300 мінімальных заробкаў. Нагадаем, што гэтак Павел Севярынец быў пакараны за ўдзел у акцыі, прысьвечанай Дню сьвятога Валянціна, якая праходзіла сёлета 14 лютага пад дэвізам "Беларусь у Еўропу".

## Скарга не задаволеная

Былы кіраўнік беларускай дзяржавы, Старшыня Вярхоўнага Савету РБ Станіслаў Шушкевіч падаў зыск у суд з патрабаваньнем праіндэксаваць прызначаную яму ў 1996 годзе пенсію. Пяць гадоў таму пенсійная дапамога яму ў беларускіх рублях складала ў эквіваленце каля 200 даляраў ЗША, але з таго часу абясцэнілася з-за інфляцыі ў 100 разоў.

Суд Маскоўскага раёну г. Мінску прыняў рашэньне адмовіць у задавальненьні скаргі С. Шушкевіча. З 11 верасьня 1997 году ўмовы і нормы пенсійнага забесьпячэньня службоўцаў дзяржапарату рэгулююцца Дэкрэтам прэзідэнта РБ № 16 ад 9 верасьня 1997 году «Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні матэрыяльнага і сацыяльнага забесьпячэньня служачых дзяржаўнага апарату і асобаў, што да іх прыраўноўваюцца». Па сьцьвярджэньні адказчыка, права на пенсію паводле нормаў названага дэкрэту заяўнік ня мае, а заканадаўчы акт, які прадугледжваў бы асобны парадак прызначэньня альбо пераразьліку пенсіі былым старшыням Вярхоўнага Савету, не прыняты.



Фота "ПнВ"






# Вясна прыйшла — вясьне дарогу



Фота "ПнВ"

У Беларусі стала традыцыяй, што найбольшая актыўнасьць прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі прыпадае на вясновыя месяцы. Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка – першае сьвята, якое вось ужо каторы год дае пачатак ланцужку вясновых выступаў апанентаў рэжыму. Арганізатарам шэсьця з нагоды Дня Канстытуцыі сёлета стала Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада).

Акцыя была забароненая гарадзкімі ўладамі ў заяўленым фармаце – згодна з рашэньнем Мінгарвыканкаму БСДП (НГ) былс дазволенае правядзеньне толькі мітынгу на плошчы Бангалор. Арганізатары шэсьця і яго ўдзельнікі не пагадзіліся з гэтым рашэньнем і сабраліся на плошчы Якуба Коласа ў цэнтры сталіцы і пад белчырвона-белымі і партыйнымі сьцягамі рушылі па вуліцы Веры Харужай да плошчы Парыскай камуны, дзе меркавалася правядзеньне мітынгу. Ад самага пачатку да плошчы Якуба Коласа былі сьцягнутыя вялікія сілы міліцыі, вяліся аператыўныя відэаздымкі.

На скрыжаваньні вуліцаў Куйбышава і Варвашэні шлях дэманстрантам перакрылі ўзброеныя шчытамі і дубінкамі міліцыянты. Дэманстранты былі адціснутыя з праезнай часткі на ходнікі і акружаныя вайскоўцамі. Супрацьстаяньне скончылася тым, што ўдзельнікі шэсьця праз нейкі час разыйшліся.

Паводле папярэдніх зьвестак, ёсьць затрыманыя, сярод якіх старшыня БСДП (НГ) Мікола Статкевіч.

# Дык што ж ёсьць абраза?

## – так і засталося нявысьветленым на судзе ў Шклове, але "вінаватыя" пакараныя...

14 сакавіка 2002 году ў Шклоўскім раённым судзе скончылася судовае разьбіральніцтва па крымінальнай справе аб "публічнай абразе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".

У судовым працэсе быў апытаны мастацтвазнаўца Юрась Барысевіч, які ахарактарызаваў падзеі 14 жніўня ў вёсцы Гарадзец з пункту гледжаньня мастацтва: "Гэта была мастацкая акцыя — перфоманс. Гэты від сучаснага мастацтва апошнім часам пачаў актыўна разьвівацца ў Беларусі. У перфомансе можа быць закранутая любая сьфера жыцьця – палітычная, эратычная, філасофская. У перфомансе галоўнае ня вынік, а сам працэс. Аўтары такіх акцыяў імкнуцца зьняць мяжу паміж мастацтвам і паўсядзённым жыцьцём. Тое, што адбылося 14 жніўня ў вёсцы Гарадзец, мае ўсе прыкметы перфомансу – тэатралізаванага дзеяньня – быў рэквізіт, сцэнар, акторы, гледачы, пляцоўка для паказу".

Абаронца Павел Сапелка запытаўся ў мастацтвазнаўцы: "Ці можна лічыць дзеяньні маладых людзей непрыстойнымі і абразьлівымі?" Юрась Барысевіч адказаў: "Мяркуючы па рэакцыі гледачоў – нельга. Рэакцыя гледачоў была нейтральнай. Абурыўся толькі міліцыянт". Судзьдзя прапанавала Юрасю Барысевічу даць тлумачэньне слова "абраза", ён адказаў – "давядзеньне чалавека да стану дэпрэсіі альбо афекту".

Абаронца Сапелка заявіў хадайніцтва: "Паколькі быў падкрэслены суб'ектыўны фактар, прашу вызначыць пацярпелага ў дадзенай справе і выклікаць яго ў суд".

Але гэтае хадайніцтва не было задаволенае. Таксама было адхіленае (ужо ў другі раз) хадайніцтва аб правядзеньні комплекснай "моваэнаўчай, псіхалагічнай і мастацтвазнаўчай экспертызы". На правядзеньні экспертызы настойвалі і абвінавачваемыя, і Яўген Патупчык (прадстаўляў у працэсе інтарэсы свайго непаўнагадовага сына Максіма Патупчыка), які сказаў, што толькі экспертыза можа вызначыць, "што гэта было: тэатральны трук, ці прыніжэньне некага". Пракурор Ірына Алдонава на гэта адказала, што "абарона наўмысна зацягвае працэс".

Судзьдзя абвясьціла судовае сьледзтва спыненым, пачаліся судовыя спрэчкі. У сваім выступе пракурор Ірына Алдонава заявіла, што абвінавачваемыя "зьяўляюцца выканаўцамі злачынства, ініцыятарамі якога зьяўляюцца людзі, якія стаяць у апазіцыі да прэзідэнта". Пры гэтым пракурор прызнала, што ў нас у краіне мае месца "нестабільнасьць". Урэшце пракурор запатрабавала, каб усе ўдзельнікі перфомансу ў вёсцы Гарадзец былі аштрафаваныя на 200 мінімальных заробкаў, відаць, забыўшыся пра двух непаўнагадовых, у адносінах да якіх у Крымінальным кодэксе ёсьць абмежаваньне масімальнага памеру штрафу – 20 мінімальных заробкаў. Апрача таго, пракурор запатрабавала, каб усе рэчавыя доказы былі зьнішчаныя, за выключэньнем фотаапарату і нумароў газеты "Наша Свабода", якая зьяўляецца афіцыйна дазволеным выданьнем.

Абаронца Павел Сапелка сказаў: "Даўно я не пачынаў свой выступ з такім цяжкім сэрцам. Ня вырашанае самае галоўнае пытаньне – ці мела месца ў дзеяньнях маіх падабаронных абраза каго-небудзь...".

І ўсё ж пяцёра маладых людзей былі прызнаныя вінаватымі ў "публічнай абразе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", г.зн. у злачынстве, адказнасьць за якое прадугледжаная часткай 1 артыкулу 368 КК Рэспублікі Беларусь. І гэта не зьдзіўляе, бо апраўдальныя рашэньні ў нашыя дні ў Беларусі – зьява рэдкая. Але зьдзівіла адна дэталь працэсу, на якім вельмі шмат гаварылася пра катэгорыі этычныя і эстэтычныя – "прыстойнага" і "непрыстойнага", "прыгожага" і "непрыгожага", – на працягу дня ў зале судовага паседжаньня пракурор Ірына Алдонава жавала жуйку...

**Паліна Сьцепаненка.**

# "Шклоўская справа",

## альбо Сутнасьць крымінальнага абвінавачаньня Максіма Патупчыка паводле "Пастановы аб прыцягненьні непаўнагадовага ў якасьці абвінавачваемага"

**Пастанова аб прыцягненьні непаўнагадовага ў якасьці абвінавачваемага.**

*Горад Шклоў*
*27 сьнежня 2001 году.*
*Сьледчы пракуратуры Шклоўскага раёну юрыст 2-га класу Ганчарова Н.А., разгледзеўшы матэрыялы крымінальнай справы №290,*

УСТАНАВІЎ:

Прымаючы да ўвагі, што па справе сабраныя дастатковыя доказы, якія даюць падставы дзеля прад'яўленьня абвінавачаньня Патупчыку Максіму Яўгенавічу, 28 жніўня 1983 году нараджэньня, у тым, што ён 14 жніўня 2001 году каля 17 гадзінаў 50 хвілінаў па папярэдняй змове з Паўловічам А.В., Сенакосавым Д.А., Шалашковым Д.А., Кісялёвым М.М. аб зьдзяйсьненьні дзеяньняў, якія прыніжаюць гонар і годнасьць дзеючага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р., прыбылі ў вёску Гарадзец Шклоўскага раёну на аўтамабілі ВАЗ-21063 дзярж.нумар 63-41 МГ, які належыць Патупчыку Я.А. Знаходзячыся ў вёсцы Гарадзец, Паўловіч А.В. надзеў на твар загадзя падрыхтаваную кардонную маску, якая імітавала твар Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р., а Патупчык М.Я. і Сенакосаў Д.А. адзелі на сябе медыцынскія халаты з прымацаванымі да іх налепкамі з надпісам "Час выбіраць" і "Час прыбіраць". Пасьля гэтага Паўловіч А.В., Патупчык М.Я., Сенакосаў Д.А., Кісялёў М.М. сталі прыцягваць да сябе ўвагу жыхароў вёскі Гарадзец, выкрыкваючы па ходу руху па вуліцы вёскі "Усе на выбары!". Затым Паўловіч А.В., Патупчык М.Я., Сенакосаў Д.А., Шалашкоў Д.А., Кісялёў М.М. уступілі паміж сабой у злачынную змову аб інсцэніроўцы падзеяў, якія зьневажаюць гонар і годнасьць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь: пошуку і затрыманьня медыцынскімі работнікамі Лукашэнкі А.Р., быццам бы маючага псіхічныя адхіленьні і ўцёкшага з псіхіятрычнай бальніцы. Пры гэтым Паўловічу А.В. адводзілася роля Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р., Сенакосаву Д.А. і Патупчыку М.Я. – роля медыцынскіх работнікаў, а Шалашкову Д.А. неабходна было фіксаваць з дапамогай фотаапарату "SKINA" №2227959 на фотастужку "POLAROID 200-4, 4557-40 16" дзеяньні, якія выконваюць іншымі ўдзельнікамі злачыннай змовы. Дзейнічаючы згодна з распрацаваным планам, Паўловіч А.В., на твары якога была надзетая маска, што імітуе твар Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р., падышоў да знаходзіўшыхся на вуліцы вёскі Гарадзец грамадзянак Усьцінавай О.М. і Ігнаткавай М.Я., а Кісялёў М.М. і Шалашкоў Д.А. прадставілі яго жыхаркам вёскі як Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А.Р. Праз некаторы час

(Працяг на стар. 5)

## Аляксандра Паўловіча выключаюць з тэхнікуму

Як паведаміла інфармацыйная служба Хартыі-97, кіраўніцтва Магілёўскага політэхнікуму, дзе вучыцца адзін з абвінавачваемых па "шклоўскай справе" актывіст руху "Зубр" Аляксандр Паўловіч, вырашыла пакараць хлопца яшчэ да сканчэньня судовага разьбіральніцтва. Падчас педагагічнай рады разглядалася пытаньне аб выключэньні з тэхнікуму актыўных удзельнікаў перадвыбарчай кампаніі – Аляксандра Паўловіча і Аляксандра Каліты. Пытаньне было ініцыяванае дырэктарам тэхнікуму Аляксандрам Шапціцам. Амаль усе ўдзельнікі рады падтрымалі гэтую прапанову. Канчатковае рашэньне па выключэньні павінна прыняць камісія па справах непаўнагадовых Ленінскага раёну г.Магілёва.

# Прысуд вынесены – пытаньні засталіся

## "...Віна абвінавачаных Ігнатовіча і Маліка ў выкраданьні аператара ОРТ Дзьмітрыя Завадзкага не даказаная" – лічыць адвакат Сяргей Цурко

14 сакавіка Мінскі абласны суд вынес прысуд па справе так званай "банды Ігнатовіча", якая абвінавачвалася ў зьдзяйсьненьні сямі злачынстваў, у тым ліку – у выкраданьні ў ліпені 2000 году аператара ОРТ Дзьмітрыя Завадзкага. Менавіта гэты эпізод абвінавачаньня выклікаў вялікую ўвагу грамадзкасьці да справы як у Беларусі, так і за яе межамі.

У выкраданьні Дзьмітрыя Завадзкага абвінавачваліся і атрымалі пакараньне – пажыцьцёвыя зьняволеньні – былыя байцы сьпецпадразьдзяленьня "Алмаз" Валеры Ігнатовіч і Максім Малік. Суд прызнаў іх віну даказанай, аднак родныя Завадзкага – ягоная маці і жонка – выказалі сумнеў у тым, што менавіта гэтыя людзі вінаватыя ў зьнікненьні Дзьмітрыя, а вынікі суда разглядаюць як спробу адрапартаваць, што справядлівасьць перамагла і злачынцы пакараныя.



**Дзьмітры ЗАВАДЗКІ і Павел ШАРАМЕТ на адной з прэс-канферэнцыяў у 1997 годзе, калі супраць іх была ўзбуджаная крымінальная справа за "нелегальны пераход беларуска-летувіскай мяжы".**

Сумняваецца ў дачыненьні Ігнатовіча і Маліка да выкраданьня аператара ОРТ і адвакат Сяргей Цурко, які падчас судовага працэсу прадстаўляў інтарэсы жонкі Дзьмітрыя Завадзкага Сьвятланы. Гэты сумнеў ён выказаў падчас свайго выступу ў судзе, сьцьвярджаючы: "У мяне па кожным прад'яўленым доказе абвінавачаньня няма выразнай яснасьці ў вінаватасьці Ігнатовіча і Маліка. Літаральна па кожным факце сумневы, і гэтыя сумневы грунтуюцца ня столькі на парушэньнях (Крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ –*рэд.*), але ў асноўным на даволі супярэчлівых ды блытаных паказаньнях сьведкаў як падчас сьледзтва, так і ў судзе... І як мне здаецца, засталося нявырашаным галоўнае пытаньне для маёй даверніцы Сьвятланы Завадзкай – што адбылося з яе мужам, бацькам іх сына, дзе ён зараз? Мяркую, што ўвесь ход судовага працэсу ня змог знайсьці адказу на дадзенае пытаньне. Прыняць версію абвінавачаньня не магу, лічу яе не дастаткова пераканаўчай у фактах, што маюцца".

Такія высновы адвакат робіць паводле аналізу фактаў па выкраданьні Дз. Завадзкага, выкладзеных падчас судовага разьбіральніцтва. Адразу ж сп-р Цурко адзначае, што ён ня меў магчымасьці рабіць аналіз усіх фактаў па справе, паколькі быў пазбаўлены, і на ягоную думку, незаконна, магчымасьці прымаць удзел у дасьледваньні матэрыялаў справы з закрытых тамоў з-за адсутнасьці допуску да дзяржаўнай таямніцы.

"Перш за ўсё агаваруся, – сказаў у сваёй прамове прадстаўнік пацярпелай, – што абвінавачаныя мне не сімпатычныя, але наколькі гэта магчыма, пастараюся быць аб'ектыўным і бестароньнім... Пастараюся выходзіць з сухога аналізу доказаў, што мае сьледзтва, і вядома, праз прызму крымінальна-працэсуальнага заканадаўства".

Аналіз падзеяў, пачынаючы з дня напярэдадні выкраданьня:

"Дзень 06.07.2000 году. Тэлефонны званок Дзьмітрыю Завадзкаму з Масквы ад Паўла Шарамета з просьбай сустрэць яго на аўтамабілі 07.07.2000г. у аэрапорце Мінск-2, паколькі П.Шарамет прылятае ў Мінск. Як устаноўлена ў судзе, Дз. Завадзкі часта сустракаў Шарамета, калі той прылятаў у Мінск.

Дзень 7 ліпеня 2000 году. Раніца. Дзьмітры зьяздждае з дому пасьля 10 гадзінаў. Зьяздждае на аўтамабілі "Шкода-Форман" дзяржнумар 03-18. Як паказваюць сьведкі, Дзмітры сеў у аўтамабіль адзін і паехаў.

Дарога ў аэрапорт Мінск-2. Выходзячы са шматлікіх рапартаў супрацоўнікаў міліцыі, тлумачэньняў грамадзянаў, па дарозе ад Мінску да аэрапорту Мінск-2 ніхто нічога неардынарнага ня бачыў, а значыць, Дзьмітры Завадзкі, як мяркуецца, даехаў да аэрапорту і, магчыма, прыпаркаваў аўтамабіль там, дзе ён пазьней быў знойдзены Паўлам Шараметам – насупраць міжнароднай залы прылёту і адлёту.

Два сьведкі: Дзейнар А.В., супрацоўнік ДАІ УУСТ аэрапорту і старэйшы інсьпектар дзяжурны УУСТ аэрапорту засьведчылі, што аўтамабіль Дз. Завадзкага зьявіўся ў аэрапорце пасьля 10 гадзінаў 7 ліпеня 2000 году. Праўда, як вынікае з паказаньняў інсьпектара дзяжурнага, у 10.45 ён зьязджаў дадому пасьля зьмены, і аўтамабілю Дз. Завадзкага ў аэрапорце яшчэ не было. Тут некаторая недакладнасьць, часавае разыходжаньне ў паказаньнях сьведкаў. Так, зыходзячы з паказаньняў Дзейнара, пасьля таго, як ён атрымаў інфармацыю адносна пошукаў Дз. Завадзкага шляхам апытаньня вадзіцеляў, якія знаходзіліся ў той дзень у аэрапорце, ім быў устаноўлены вадзіцель аўтамабілю "Опель", колеру металік. Дык вось, са словаў гэтага вадзіцеля, аўтамабіль Дз. Завадзкага зьявіўся ў аэрапорце пасьля 10 гадзінаў. На жаль, дадзеных вадзіцеля, прозьвішча, імя, нумар аўтамабілю афіцэр Дзейнер чамусьці не запісаў. Засталося нявысьветленым, ці бачыў гэты вадзіцель, хто пад'ехаў на аўтамабілі, а якой гадзіне дакладна быў прыпаркаваны аўтамабіль... Я зыходжу з матэрыялаў справы. У іх няма дадзеных, што нехта спрабаваў знайсьці гэтага важнага сьведку, які, магчыма, дапамог бы адказаць на пытаньне: даехаў Дзьмітры Завадзкі да аэрапорту ці ён быў кімсьці перахоплены па дарозе ў аэрапорт?

Далей – прылёт П.Шарамета рэйсам з Масквы. Пасьля выхаду з самалёту і з будынку аэрапорту П.Шарамет на звычайным для яго месцы ўбачыў аўтамабіль Дз. Завадзкага. Аўтамабіль быў зачынены, Дзмітрыя не было.

Тут папрашу зьвярнуць увагу, Высокі суд, на звычайную дамоўленасьць паміж Дз.Завадзкім і П.Шараметам, якая была дасягнутая раней, калі Дзьмітры сустракаў Шарамета ў аэрапорце Мінск-2: ставіць аўтамабіль на тым месцы, дзе ён быў знойдзены 7 ліпеня 2000 году, г.зн. насупраць міжнароднай залы прылёту. Аб гэтай дамоўленасьці, зыходзячы з паказаньняў П.Шарамета, практычна ведалі толькі 2 чалавекі: сам Дзьмітры Завадзкі і П. Шарамет.

*(Працяг на стар. 4)*

# Прысуд вынесены – пытаньні засталіся

(Пачатак на стар. 3)

Гэта вельмі важна пры высьвятленьні ўсіх абставінаў таго, што адбылося..."

Адвакат Цурко зьвяртае ўвагу на вельмі важную акалічнасьць: падчас агляду аўтамабілю зьнікла апарата ў салоне не было знойдзена адбіткаў пальцаў Завадзкага, як і любых іншых адбіткаў – яны былі кімсьці выцертыя. Эксперт Кажушко, які апрацоўваў аўтамабіль крыміналістычным парашком, засьведчыў гэта на судзе. Гэты ж сьведка паказаў, што пры аглядзе аўтамабілю была знойдзеная аўтамагнітола, якая ляжала пад сядзеньнем пасажыра сьпераду, справа. На аўтамагнітоле таксама не было ніякіх адбіткаў пальцаў, яны былі сьцёртыя. Адвакат заявіў: "Тут паўторна прашу зьвярнуць Вашую ўвагу, Высокі суд, на тую акалічнасьць, што пра звычку Дзьмітрыя пры выхадзе з аўтамабілю даставаць з панэлі прыстасаваньняў магнітолу і хаваць яе пад сядзеньнем пасажыра сьпераду ведала абмежаваная колькасьць людзей: сам Дзьмітры, ягоная жонка Сьвятлана і Павел Шарамет. Такім чынам, робяцца высновы пачатковага эпізоду трагедыі, зыходзячы з паказаньняў сьведкаў і перш за ўсё эксперта-крыміналіста Кажушко, Дзьмітры Завадзкі не даехаў да аэрапорту.

І тут узьнікае адно з асноўных пытаньняў: дык хто ж мог паставіць аўтамабіль, акрамя Дзмітрыя, хто яшчэ, акрамя Сьвятланы і П.Шарамета мог ведаць пра дамоўленасьць паміж Дзьмітрыем і Шараметам ставіць аўтамабіль у вызначаным месцы і пра ягоную звычку хаваць магнітолу?.. У матэрыялах справы няма дакладных сьведчаньняў таго, што доўгі час за Дзьмітрыем вялося назіраньне, што за ім сачылі, што нехта цікавіўся ня толькі маршрутамі яго перамяшчэньня, але і звычкамі. Ніхто да блізкіх і знаёмых Дзьмітрыя Завадзкага з падобнымі пытаньнямі, якія, напэўна, запомніліся б як дзіўныя, не падыходзіў і іх не задаваў... І як жа тады адказаць на пытаньне – хто паставіў аўтамабіль Дзьмітрыя ў аэрапорце? Лічу, на сьледстве і ў судзе адказу не атрымалі, нягледзячы на версію абвінавачаньня, якая выкладзеная ў пастанове аб прыцягненьні Ігнатовіча і Маліка ў якасьці абвінавачваемых. Можна меркаваць – той, хто не баяўся быць заўважаным, што можа быць спыненым супрацоўнікамі ДАІ ці кімсьці яшчэ. Гэта можа быць чалавек, які валодае пэўнымі ўладнымі функцыямі (прадстаўнік сілавых органаў) ці маючы адносіны да аўтамабілю праз арганізацыю, дзе працаваў Дзьмітры Завадзкі. Паўтараю – гэтае меркаваньне на падставе аналізу фактаў. На сьледстве і ў судовым паседжаньні на гэтае пытаньне ніхто не адказаў".

Асаблівую ўвагу С. Цурко зьвяртае на адзін з асноўных рэчавых доказаў вінаватасьці Ігнатовіча і Маліка, які быў прадстаўлены сьледствам суду, – рыдлёўка з біялагічным матэрыялам Дзьмітрыя Завадзкага. Адвакат аналізуе пратаколы агляду аўтамабілю затрыманых. Аглядаў праводзілася тры: 3, 4 і 15 жніўня 2000 году. Пры першым аглядзе ў аўтамабілі была знойдзеная рыдлёўка, але ў пратаколе не адлюстраванае ні месца, дзе яе знайшлі, ні памеры. Пры паўторным аглядзе аўтамабілю Ігнатовіча праводзілася фатаграфаваньне прадметаў, што былі там выяўленыя, аднак на прадстаўленых эксьпертам фотаздымках у матэрыялах справы здымку рыдлёўкі няма. Пры трэцім аглядзе, як засьведчыла ў судзе адна з панятых, рыдлёўку дасталі з багажніку аўтамабілю, але пры гэтым панятая не памятала, ці была перад гэтым машына апячатаная. У матэрыялах справы ёсьць таксама пратаколы допытаў у якасьці сьведкаў супрацоўнікаў міліцыі Краснадарскага краю, дзе былі затрыманыя Ігнатовіч і Малік. Гэтыя сьведкі паказалі на дадатковыя запыты сьледства, што рыдлёўкі пры аглядзе аўтамабілю Ігнатовіча не было.

У дадатак да выкладзеных акалічнасьцяў, адвакат Цурко ўказвае, што пры атрыманьні і замацаваньні такога важнага рэчавага доказу, як рыдлёўка, сьледзтвам былі дапушчаныя парушэньні Крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ: панятымі былі супрацоўнікі аднаго ведамства – МУС, што забаронена арт. 64 дадзенага кодэксу, паколькі яны зьяўляюцца асобамі зацікаўленымі. Такім чынам, лічыць адвакат, спасылаючыся на ч. 3 арт. 8 КПК РБ, гэты доказ ня мае юрыдычнай сілы, паколькі атрыманы з парушэньнем вызначанага парадку, а ч. 5 арт. 105 КПК РБ замацоўвае палажэньне, што доказы, атрыманыя з парушэньнем закону, ня могуць быць пакладзеныя ў аснову абвінавачаньня.

У заключэньні сваёй прамовы прадстаўнік пацярпелай – Сьвятланы Завадзкай – сказаў: "Вядома, такая пазіцыя можа выклікаць зьдзіўленьне, а часам і раздражненьне. Але, Высокі суд, выступ у такім ракурсе прадыктаваны ня толькі імкненьнем быць аб'ектыўным, але і, я сказаў бы, дэвальвацыяй прафесіі юрыста. Заніжэньнем у цэлым па краіне патрабавальнасьці да прафесійных і асабістых якасьцяў юрыстаў (асабліва ў праваахоўных органах), калі патрабаваньні строгага выкананьня закону, выключэньне нават драбнейшых яго парушэньняў на практыцы ігнаруюцца, а часам з маўклівай згоды грамадства "падтрымліваюцца". Не сакрэт, што ў апошні час шмат крымінальных справаў, што накіроўваюцца дзеля разгляду ў суды, не адпавядаюць патрабаваньням закону і ўсебаковасьці, паўнаце і аб'ектыўнасьці расьсьледаваньня. Адсюль, як правільна адзначыў прадстаўнік дзяржаўнага абвінавачаньня на хадайніцтва прадстаўніка Вольгі Рыгораўны (ма-ці Дз. Завадзкага – *рэд.*), выкарыстаньне судовай трыбуны дзеля ажыць-цяўленьня палітычных мэтаў. Але гэта часта адбываецца ў выніку нездавальняючай працы па расьсьледваньні справаў, каб кампенсаваць недапрацоўкі сьледзтва, парушэньні закону пры расьсьледаваньні. Гэта не нашая віна, а бяда.

На падставе вышэйсказанага мяркую, што віна абвінавачваемых Ігнатовіча і Маліка ў выкраданьні апаратара ОРТ Дзьмітрыя Завадзкага не даказаная".

**Падрыхтавала Т. РЭВЯКА.**

***P.S. Цалкам з прамовай адваката С.Цурко можна азнаёміцца на сайце ГА "Праваабарончы цэнтр "Вясна": www.spring96.org (руская старонка).***

## Заява

### Грамадзкай арганізацыі "Беларуская асацыяцыя журналістаў"

Прысуд злачыннай бандзе былога "алмазаўца" В. Ігнатовіча, вынесены 14 сакавіка 2002 году Мінскім абласным судом, так і ня даў адказу на галоўнае пытаньне: што здарылася 7 ліпеня 2000 году з нашым калегам, сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў Дзьмітрыем Завадзкім, дзе ён?

Сярод злачынстваў, якія ўчыніла банда Ігнатовіча, выкраданьне журналіста Дзьмітрыя Завадзкага фактычна засталося не даказаным ні падчас папярэдняга сьледзтва, ні ў працэсе судовага разьбіральніцтва. Няма ніякіх доказаў, нават "шчырага прызнаньня" В. Ігнатовіча або ягоных саўдзельнікаў у іх замяшанасьці ў выкраданьні Дз. Завадзкага.

Судовае паседжаньне Мінаблсуда праходзіла за зачыненымі дзьвярыма, што не дазволіла ўдзельнічаць або прысутнічаць на ім прадстаўнікам БАЖ, іншых грамадзкіх арганізацыяў і стала адной з падставаў, якія выклікалі сумневы ў аб'ектыўнасьці і ўсебаковасьці судовага разьбіральніцтва.

Не аспрэчваючы ў цэлым абгрунтаванасьці прысуду па крымінальнай справе групы В. Ігнатовіча, мы, аднак, лічым, што абвінавачваць яго ў выкраданьні Дзьмітрыя Завадзкага не было дастатковых падставаў. Такім чынам, таямніца зьнікненьня нашага калегі і яго далейшы лёс засталіся нявысьветленымі.

Зыходзячы з гэтага, БАЖ пакідае за сабой права патрабаваць ад Пракуратуры Рэспублікі Беларусь прыняць рашэньне і выдзеліць эпізод выкраданьня Дзьмітрыя Завадзкага з крымінальнай справы групы В. Ігнатовіча ў асобную справу з мэтай правядзеньня дадатковага ўсебаковага і аб'ектыўнага расьсьледаваньня.

**Праўленьне ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".**

*15 сакавіка 2002 году.*

# "Суд кіраваўся помстаю, але не законам..."

***7 год пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці і ўтрыманьнем у калоніі строгага рэжыму – гэтакі прысуд вынес судзьдзя Ленінскага раёну г.Мінску Сяргей Хрыпач сыну экс-прэм'ера беларускага ўраду Аляксандру Чыгіру. Яшчэ два чалавекі – Антон Яшын, хворы на сухоты, набытыя ў часе знаходжаньня ў сьледчым ізалятары, і Зьміцер Юцкевіч атрымалі адпаведна 7 з паловай і 11 з паловай гадоў зьняволеньня: Яшын – у калоніі строгага рэжыму, Юцкевіч – узмоцненага...***

Аляксандру Чыгіру, малодшаму сыну былога кіраўніка беларускага ўраду Міхаіла Чыгіра, сьледзтва інкрымінавала продаж запчастак скрадзеных аўтамабіляў. Разам з Аляксандрам па справе праходзілі Антон Яшын і Зьміцер Юцкевіч. Апошнія абодва раней прыцягваліся да крымінальнай адказнасьці. Яны на папярэдніх судах прызнавалі сваю віну. Гэтым разам і Юцкевіч, і Яшын апошнім словам заявілі пра сваю невінаватасьць. Ранейшыя гэтакзваныя прызнаньні, як адзначылі падсудныя, у іх выбівалі сьледчыя.



Пракурор Ільля Слука – сын былога дэкана факультэту журналістыкі БДУ, а затым памочніка прэзідэнта РБ Алега Слукі – запатрабаваў для падсудных даволі жорсткія меры пакараньня: Аляксандру Чыгіру – 7 гадоў пазбаўленьня волі, Антону Яшыну, хвораму на сухоты, – 8, а Зьмітру Юцкевічу – 11 з паловаю гадоў зьняволеньня. Судзьдзя Ленінскага райсуда сталіцы быў ня больш гуманным за пракурора.

Прысуд выклікаў шок ва ўсіх прысутных на апошнім паседжаньні. У часе разгляду справы ў судзе абаронцамі падсудных усе довады так званых «пацярпелых» літаральна разваліліся. З трох эпізодаў, інкрымінаваных сьледзтвам, пацьверджаньне знаходзіў толькі адзін: калі Антон Яшын здагадваўся, што набыў і потым перапрадаваў магчыма скрадзены, «Форд». Пры тым ён не падзяліўся сваімі падазрэньнямі ні з Чыгіром, ні з Юцкевічам.

Тым ня менш, судзьдзя папросту выканаў просьбу дзяржаўнага абвінаваўцы – Слукі. У рэальнасьць таго, што адбылося, проста ня верылася. Кіраўнік Цэнтру «Прававая дапамога насельніцтву», былы сьледчы пракуратуры Фрунзенскага раёну Мінску Алег Волчак лічыць, што суд кіраваўся помстаю, але не законам.

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, які прысутнічаў на судовым паседжаньні, параўнаў падзеі, што адбыліся 6 сакавіка 2002 году, з годам 1937-м: "Сімвалічна, што прысуд выносілі тры чалавекі. На двары – XXI стагодзьдзе, на календары – 37 год. Стаяла тая ж «тройка». Там была сталінская, сёньня – лукашэнкаўская. Сутнасьць не мяняецца. Мы і цяпер застаемся рамантыкамі і спадзяемся: вось яшчэ адна судовая справа, яшчэ адзін працэс – і знойдзецца судзьдзя-грамадзянін, які зробіць тое, чаму яго вучылі. Але мы не знаходзім такога судзьдзі, з працэсу ў працэс. Гэта сьведчыць пра тое, што ў нас няма судовай сістэмы, якая абараняла б годнасьць чалавека. У нас проста ёсьць структура – юрыдычны аддзел Адміністрацыі Лукашэнкі. Яны ж чыноўнікі: што ім сказалі зьверху, тое яны і робяць.

Бацька асуджанага, былы кіраўнік ураду Міхаіл Чыгір на сто адсоткаў упэўнены, што прысуд ягонаму сыну зьяўляецца "адкрытай палітычнай замовай, фарсам і помстаю ўладаў за актыўную жыцьцёвую і палітычную пазіцыю".

Маці Аляксандра Чыгіра Юлія Станіславаўна на судовым працэсе выступала ў якасьці абаронцы сына. Але, паводле ейных словаў, аніякія довады абароны пры вынясеньні прысуду ў разьлік прынятыя не былі. Юлія Чыгір сама, як і муж, падпала пад крымінальны перасьлед у часе судовага працэсу над Міхаілам Чыгіром.

А тым часам над самім Міхаілам Чыгіром «вісіць» новая крымінальная справа. Быццам бы за нявыплату падаткаў у часе ягонай працы ў нямецкай фірме – пасьля адстаўкі з пасады прэм'ер-міністра Беларусі.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна» – паводле Радыё Рацыя.**

### Нічым не апраўданая жорсткасьць

13 сакавіка Юлія Чыгір – маці асуджанага на 7 гадоў зьняволеньня Аляксандра Чыгіра – і адвакат Аляксандр Пыльчанка падалі скаргу ў Гарадзкі суд Мінску, у якой патрабуюць адмяніць жорсткі прысуд. Яны лічаць крымінальны перасьлед А.Чыгіра помстай за палітычную дзейнасьць бацькі – былога прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

# "Шклоўская справа"

(Пачатак на стар. 2)

Сенакосаў Д.А. і Патупчык М.Я., на якіх былі надзетыя медыцынскія халаты і якія выдавалі сябе за медыцынскіх работнікаў, убачыўшы Паўловіча А.В., які знаходзіўся каля грамадзянак Ігнатковай М.Я. і Усьцінавай О.М., пачалі пераследаваць яго, спрабуючы затрымаць. Дадзеныя дзеяньні Шалашкоў Д.А. зафіксаваў пры дапамозе фотаапарату "SKINA" №2227959 на фотастужку "POLAROID 200-4, 4557-40 16".

Працягваючы злачынныя дзеяньні з мэтай рэалізацыі намеру, накіраванага на прыніжэньне гонару і годнасьці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р., выдаючы сябе за ўказанага кіраўніка дзяржавы, увайшоў у гандлёвую залу крамы №36, якая размешчаная ў вёсцы Гарадзец, і, зьвяртаючыся да прысутных там грамадзянаў, вымавіў: "Вы што, мяне не пазналі? Я Ваш Прэзідэнт". Пасьля гэтага ў гандлёвую залу ўвайшлі Патупчык М.Я. і Кісялёў М.М., якія выдавалі сябе за медыцынскіх работнікаў, загадзя ведаючы, што іх дзеяньніназіраюць пабочныя асобы, са словамі "Прыбярэм псіха" завялі Паўловічу А.В. рукі за сьпіну і вывелі з крамы. Дадзеныя дзеяньні Шалашкоў Д.А. паспрабаваў зафіксаваць пры дапамозе фотаапарату на фотастужку.

Сваімі дзеяньнямі Патупчык М.Я. зьдзейсьніў публічную зьнявагу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, г.зн. злачынства, якое прадугледжанае часткай 1 артыкулу 368 КК Рэспублікі Беларусь.

Кіруючыся арт.арт. 240, 241, 243 КПК Рэспублікі Беларусь,

ПАСТАНАВІЎ:

4. Прыцягнуць Патупчыка Максіма Яўгенавіча, 28 жніўня 1983 году нараджэньня, ураджэнца г. Шклову Магілёўскай вобласьці, у якасьці абвінавачваемага і прад'явіць яму абвінавачаньне ў злачынстве, прадугледжаным артыкулам 368 часткай 1 УК Рэспублікі Беларусь.

5. Уручыць абвінавачваемаму копіі пастановы аб прыцягненьні ў якасьці абвінавачваемага і пратаколу з тлумачэньнем яго правоў.

6. Копію гэтай пастановы накіраваць пракурору.

**Сьледчы Ганчарова Н.А.**

# "Вежа" ўладам перашкаджала

4-5 сакавіка 2002 году ў Берасьцейскім абласным судзе разглядалася справа па зыску Берасьцейскага аблвыканкаму аб ліквідацыі абласнога Цэнтру падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «Вежа».

Падставай для ліквідацыі паслужылі 2 пісьмовыя папярэджаньні Упраўленьня юстыцыі Берасьцейскага аблвыканкаму, якія былі вынесеныя грамадзкаму аб'яднаньню. Першае 30 верасьня і другое 5 кастрычніка 2001 году. У чым заключаліся "парушэньні заканадаўства", зьдзейсьненыя "Вежай"? Напрыклад, на бланку пісьма, якое паступіла ва Упраўленьне юстыцыі Берасьцейскага аблвыканкаму 19 верасьня 2000 году, была пададзеная назва, якая не праходзіла дзяржаўнай рэгістрацыі, замест слова «Брэсцкі» было слова «Берасьцейскі» і юрыдычны адрас: замест «горад Брэст, вул. Савецкіх пагранічнікаў, 52» быў пазначаны адрас «горад Берасьце, вул. Савецкіх памежнікаў, 52», што не адпавядае назовам пададзеным у статуце. Таксама "Вежа" абвінавачвалася ў "сістэматычным парушэньні статуту і заканадаўства ў сваёй дзейнасьці": напярэдадні выбараў прэзідэнта РБ было праведзенае апытаньне, у якім між іншым высьвятляліся адносіны жыхароў Берасьця да кандыдатаў у прэзідэнты, што на думку істца, супярэчыла дзейнасьці аддзяленьня.

Апроч таго, Цэнтр выдае бюлетэнь «Каліва», у якім "распаўсюджваецца інфармацыя пра аб'яднаньні, дзейнасьць якіх у краіне забароненая п.3 Дэкрэту прэзідэнта РБ "Аб рэгуляваньні дзейнасьці палітычных партыяў, прафесійных саюзаў і грамадзкіх аб'яднаньняў" ад 26 студзеня 1999 году. Гэта тычыцца Маладога Фронту, а таксама дасьледча-аналітычнага клубу «Дзедзіч», якія згадваліся ў бюлетэні.

Падчас разгляду справы пракурор вельмі цікавіўся Берасьцейскай філіяй Маладога Фронту і культурна-гістарычнай арганізацыяй «Дзедзіч»: «Хто кіруе, колькі сяброў, дзе яны? Чаму «Фронт», і з кім зьбіраюцца ваяваць?», што выклікала непаразуменьне прысутных. Ён таксама катэгарычна выказаў нязгоду, калі пачуў ад адной са сьведак, што на Беларусі інваліды і самотныя маці сацыяльна неабароненыя.

Далей разгляд справы замарудзіўся ў сувязі з высьвятленьнем сутнасьці дзейнасьці і аказваемых паслуг «Прававой Клінікай», створанай пры Цэнтры «Вежа», і быў адкладзены на 11 сакавіка ў сувязі з неабходнасьцю азнаёміцца з архівам Берасьцейскага абласнога Цэнтру падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «Вежа» і выклікаць у суд чарговых сьведкаў.

12 сакавіка рашэньнем Берасьцейскага абласнога суда Цэнтр падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Вежа" быў ліквідаваны .

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# Пратэст супраць перасьледу журналістаў

***12 сакавіка буйнейшыя беларускія праваабарончыя арганізацыі ГА "Праваабарончы цэнтр "Вясна", РГА "Беларускі хельсінскі камітэт", ГА "Цэнтр па правах чалавека" і "Прававая дапамога насельніцтву" накіравалі зварот з нагоды закрыцьця газеты "Пагоня" і крымінальнага перасьледу журналістаў Прэзідэнту А.Лукашэнку, Генеральнаму пракурору В.Шэйману і Пракурору Гарадзенскай вобласьці В.Літвінаву.***

У Звароце сказана:

"12 лістапада 2001 году Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь вынес рашэньне спыніць дзейнасьць незалежнай газеты "Пагоня". Рашэньне было заснаванае на падставе двух папярэджаньняў, вынесеных газеце – Дзяржкамдрукам (зараз Міністэрства інфармацыі) і Гарадзенскай абласной пракуратурай. Вышэйшы гаспадарчы суд не прыняў да ўвагі аргументы прадстаўнікоў рэдакцыі газеты, а таксама той факт, што Міністэрства інфармацыі адмовілася ад зыску яшчэ да пачатку судовага пасяджэньня. Закрыцьцё адной з уплывовых незалежных газетаў выклікала справядлівы пратэст грамадзкасьці як у Беларусі, так і за яе межамі.

13 лютага 2002 году старшы сьледчы па важнейшых справах пракуратуры Гарадзенскай вобласьці Алег Кулевіч вынес пастанову аб прыцягненьні ў якасьці абвінавачваемых галоўнага рэдактара газеты "Пагоня" Міколы Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйкі. Крымінальная справа ў дачыненьні да журналістаў была ўзбуджаная 5 верасьня 2001 году паводле ч. 2 арт.367 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (Паклёп у дачыненьні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), паводле якой прадугледжваецца максімальнае пакараньне – пазбаўленьне волі тэрмінам да пяці гадоў.

Мы канстатуем, што сваімі дзеяньнямі беларускія ўлады ў чарговы раз дэманструюць пагарду да прынцыпаў свабоды слова, права на свабоднае атрыманьне і распаўсюджаньне інфармацыі, права на свабоду меркаваньняў і іх свабоднае выказваньне. Крымінальны перасьлед незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі сьведчыць пра працяг канфрантацыі паміж дзяржаўнымі ўладамі і грамадзтвам.

Мы лічым, што ціск, які аказваецца на прадстаўнікоў незалежных СМІ Беларусі, зьяўляецца палітычна матываваным, зьвязаны з іх нязьменнай пазіцыяй па адстойваньні дэмакратычных каштоўнасьцяў, асабліва падчас выбарчай кампаніі. Мы заклікаем органы ўлады неадкладна спыніць крымінальны перасьлед рэдактара газеты "Пагоня" Міколы Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйкі, як і іншых прадстаўнікоў СМІ Беларусі".






*Міколу Маркевічу і Паўлу Мажэйку, журналістам зачыненай гарадзенскай "Пагоні", інкрымінуюць абразу прэзідэнта. Рэпарцёрам пагражае да 5 гадоў турмы.*

12 сакавіка прыйшлі зьвесткі, што крымінальная справа, узбуджаная супраць Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі была перададзеная ў суд. Такое рашэньне прыняў намесьнік пракурора Гарадзенскай вобласьці Уладзімір Аніська. Журналістаў абвінавачваюць у паклёпе на прэзідэнта. Сьледзтва праігнаравала тры літаратуразнаўчыя экспертызы, якія паказалі, што паклёпу ў тэкстах «Пагоні» не было. Адна экспертыза была незалежнай, а дзьве другія праводзіліся на заказ самога следзтва.

# Вопыт, які яшчэ спатрэбіцца

***«Для назіральнікаў прэзідэнцкія выбары працягваюцца», – такую заяву 4 сакавіка на прэзентацыі зборніку артыкулаў «Выбары прэзідэнта РБ – 2001. Факты і каментарыі» зрабіў старшыня праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі.***

У зьвязку з гэтым А. Бяляцкі згадаў жыхарку Рэчыцы Наталю Брэль, крымінальная справа супраць якой за пасылку сатырычнага зьместу на адрас А.Лукашэнкі нядаўна перададзеная ў суд. А ўвогуле перасьлед удзельнікаў незалежнага назіраньня працягваецца дагэтуль. У часе самой кампаніі звыш 100 назіральнікаў папросту выставілі з выбарчых участкаў.

Акрэдытацыя назіральнікаў летась пачалася адразу пасьля ўтварэньня выбарчых участкаў. І вось тут і ўзьніклі праблемы. На пачатак датэрміновага галасаваньня былі акрэдытаваныя 12 тысячаў назіральнікаў, а яшчэ каля 4 тысячаў чалавек «зьмянілі першапачатковае жаданьне назіраць, бо з самага пачатку ўлада пачала праводзіць палітыку запалохваньня назіральнікаў», сказаў старшыня ЦКС Мечыслаў Грыб. Ужо 8 верасьня Цэнтрвыбаркам скасаваў рэгістрацыю прыкладна 2 500 назіральнікаў. У офісах спрэс вяліся праверкі, забіралася аргтэхніка, а 9 верасьня – у дзень выбараў – была адключаная тэлефонная і электронная сувязь.


Выступае Мечыслаў ГРЫБ.

Вынікі незалежнага назіраньня на прэзідэнцкіх выбарах выкладзеныя ў кнізе «Выбары прэзідэнта РБ – 2001. Факты і каментарыі», выдадзенай накладам тысячу асобнікаў сёлета ў выдавецтве «Тэсей». Гэта больш як 200-старонкавае выданьне, падрыхтаванае калектывам аўтараў пад агульнай рэдакцыяй кіраўніка экспертнай групы па заканадаўстве Кансультацыйнай рады апазіцыйных палітычных партыяў Міхаіла Пліскі. У зборніку даецца параўнаўчы аналіз заканадаўства на прэзідэнцкіх выбарах у 1994 і 2001 гадах аналізуецца сітуацыя ў краіне напярэдадні і ў часе выбараў, прыводзяцца выніковыя заключэньні БДІПЧ АБСЕ і Асацыяцыі арганізатараў выбараў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы. Завяршаюць зборнік нарматыўна-прававыя акты наконт выбараў.




Гэта пакуль адзінае такога кшталту выданьне ў Беларусі. У бліжэйшы час грамадзянская ініцыятыва «*Незалежнае назіраньне*» плануе выдаць і прэзентаваць хроніку парушэньняў заканадаўства ў часе прэзідэнцкіх выбараў – 2001.

Найпершая задача «*Незалежнага назіраньня*» ў перспэктыве – захаваць сетку ўнутранага назіраньня, каб у 25 найбуйнейшых гарадах краіны сачыць за правядзеньнем выбараў у мясцовыя Саветы. «Мы назіралі, мы будзем назіраць да таго часу, пакуль выбары ня будуць праводзіцца празрыста, у адпаведнасьці з дэмакратычнымі міжнароднымі стандартамі», – заявіў Алесь Бяляцкі.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# На месцы трагедыі

***4 сакавіка ў Мінску адбыўся жалобны мітынг з нагоды 60-й гадавіны масавага забойства габрэяў мінскага гета. 2 красавіка 1942 году ад рук нямецкіх нацыстаў гвалтоўную сьмерць прынялі 6 тысячаў вязьняў.***

Прысутныя на мітынгу на месцы масавага забойства, у так званай Яме, гаварылі, што ганебныя рэцэдывы тых часоў паўтараюцца і ў нашыя дні, у тым ліку і ў Беларусі.

За гады другой сусьветнай вайны ў Беларусі загінула 800 тысяч габрэяў. Другое *істотнае скарачэньне* габрэйскай дыяспары сталася магчымым у нашыя дні. Паводле афіцыйнай статыстыкі, за апошнія гады краіну *пакінулі 30 тысяч габрэяў*, прыкладна гэткая ж колькасьць іх цяпер жыве ў Беларусі.

Істотнае скарачэньне *габрэйскага насельніцтва* прадэманстраваў і жалобны мітынг у так званай Яме: да месца масавага забойства сваіх суродзічаў прыйшлі некалькі сотняў чалавек, тады як яшчэ ў 80-х тут зьбіраліся тысячы габрэяў. Акрамя таго, ня так даўно ўрад Ізраілю прыняў адмысловую пастанову, *якая спрасьціла* вяртаньне на гістарычную радзіму. Таму габрэяў у Беларусі, магчыма, стане яшчэ менш.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна» паводле Радыё Свабода.**

# Бюлетэні ня зьнішчыў

***У Берасьці міліцыя распачала расьсьледаваньне факту парушэньня выбарчага заканадаўства.***

18 лютага 2002 году ў Берасьцейскае абласное аддзяленьне ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна» прыйшоў грамадзянін, які перадаў 93 запоўненыя, непагашаныя бюлетэні па выбарах дэпутата Берасьцейскага гарадзкога Савету дэпутатаў па выбарчай акрузе № 8, якія праводзіліся 18 сакавіка 2001 году. Ён паведаміў, што атрымаў ад членаў выбарчай камісіі гэтыя бюлетэні, каб зьнішчыць, чаго ў свой час не зрабіў.

Старшыня Берасьцейскага абласнога аддзяленьня грамадзкага аб'яднаньня «Праваабарончы цэнтр «Вясна» зьвярнуўся да пракурора Ленінскага раёну г.Берасьця з заявай аб узбуджэньні крымінальнай справы па арт. 192 КК РБ.

Пракуратура адрэагавала на заяву і даручыла начальніку Ленінскага РАУС г.Берасьця падпалкоўніку міліцыі А. С. Касьцючыку разгледзець яе ў парадку арт. 174 КПК РБ па факце парушэньня заканадаўства аб выбарах.

1 сакавіка 2002 году ў офісе Берасьцейскага абласнога аддзяленьня ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна» зьявіліся 2 участковыя інспектары міліцыі, якія ўзялі пісьмовыя тлумачэньні ў сяброў аддзяленьня. Гэта значыць, што сьледзтва ідзе, а кола асоб маючых дачыненьне да факту парушэньня выбарчага заканадаўства звужаецца да трох дзясяткаў чалавек, таму што 18 сакавіка 2001 году другі тур выбараў у Берасьцейскі гарадзкі Савет дэпутатаў па выбарчай акрузе № 8 праводзіўся ўсяго на двух выбарчых участках, а подпісаў сяброў выбарчых камісіяў на адваротным баку бюлетэняў налічваецца больш за дзесяць.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# Хіба ж хто ведае, дзе што яго чакае...

Шчыра кажучы, заданьне рэдакцыі напісаць пра жыцьцё бамжоў, спачатку ня выклікала ў мяне аніякага захапленьня. Занадта аддавала яно нейкай "чарнухай", ды і не ўяўляў я, так бы мовіць, усёй шматграннасьці дадзенай тэматыкі. Дапамог, як часьцяком бывае, выпадак. Пасьля вясёлай вечарыны ў коле сяброў я выйшаў з кватэры і пачуў гучны лямант: "А пасядуць тут, аніякага жыцьця ад вас ня стала!.. Гадзяць толькі. Ану, вымятайся прэч, а то міліцыю выклічу!" Аказалася, што вінаватым у тым гвалце стаўся мужчына гадоў сарака з гакам, які мірна спаў, седзячы на лесьвіцы. Ён нічога не сказаў істэрычнай кабеце і паслухмяна выйшаў на марозную вуліцу. Я дагнаў яго, пачаставаў хот-догам, разгаварыліся. Небарака не выглядаў гэткім схематычным бамжом (п'яны, брудны, абарваны, сьмярдзючы), а пачуўшы беларускую гаворку, адразу перайшоў на родную мову. Далібог, як настаўнік. Пра тое, што перада мною чалавек бяз пэўнага месца жыхарства нагадвала адно шматдзённае шчаціньне на твары ды некалькі рудых плямаў на даволі прыстойным паліто.

— Навошта табе маё імя? Я ніхто, жыву нідзе і завуць ніяк. Нават пашпарту ў мяне няма... Ну калі настойваеш, заві мяне Сяргей... Сяргей Сьцяпанавіч.

***— Дзе ж ваш пашпарт?***

— Прычапіўся... Ня мент часам? Хаця, напэўна, не з такой прычоскай. Згубіў пашпарт! Дакладней адабралі. Спаў на лаўцы. Усё сваё пры сабе. Падышлі нейкія ў дублёнках, шманаць пачалі, па мордзе далі. І пайшоў мой дакуменцік з гэтымі залётнымі. Можа і сустрэнемся калі ў пастарунку. Хто ж ведае, дзе яны яго пакінуць.

***— Дзе ж ваш дом? Чаму на лавах сьпіце?***

— Дзе-дзе... Быў ды сплыў. Вядома, была кватэра двухпакаёвая. Жонка, дачка маладая. "Укалваў" інжынерам я, каб забясьпечыць сям'ю. Падпрацоўваў дзе-нідзе. Меркаваў, хай мілая дачку выгадуе, выхавае. А пасьля яна ўжо працы цурацца стала. Ксюха (дачка) ледзь школу скончыла, гуляць пачала. Маці яе таксама "не дурніца" захацела чагосьці новенькага. Карацей разбэсьціў я іх, хаця хацеў як лепей. Бахус, алкаголь іх пагубіў. Штодзень амаль п'янкі, мужыкі ў хаце. Спрабаваў, вядома, змагацца з гэтым. Нават пэўны час грошай не даваў. Ды дзе там! Шкада станавілася, ішоў у краму, набіраў прадуктаў. "Ратаваў". Паступова мае родныя навучыліся абыходзіцца без мяне. Прыносілі ўсё неабходнае прыхадні. Я замінаць ім стаў. Ды праўду кажуць: ня ходзіць бяда адна. Скарацілі мяне на працы, і стаў я ў доме рэччу зусім непатрэбнай. Дэпрэсія, вядома. Падчас адной сваркі ўстаў як быў і пайшоў. Нават і не заходзіў туды больш. Ды што я кажу – гэта перажыць трэба.

***— Вы працуеце зараз дзе-небудзь?***

— Якая там праца без дакументаў! Часам грузчыкам перабіваюся. Загадчыца знаёмая ў краме. Ды, сам разумееш, шмат там не атабарысься. Хіба што зьесьці дадуць сапсаванае. Ну бывае наймуць людзі перанесьці што ці адрамантаваць. Аплата звычайна гарэлкай ці чарнілам. І за тое, як кажуць, дзякуй. Спачатку нават пабірацца грэбаваў, але гонар трываў нядоўга. Месяц, напэўна. Адзін "калега" распавядаў: можна такім чынам займець неблагія грошы. Ня ведаю, у мяне чамусьці не атрымліваецца. Ды гэта толькі недасьведчаным падаецца, быццам што далі, тое і тваё. Там жа свая мафія: мянтам дай, "дах" аплаці, а месцы "грыбныя" ўжо даўно занятыя. Добра, калі ціхенька бутэлькі зьбярэш ды ў сьметніцы "канкурэнта" не спаткаеш. Дарэчы, ці ёсьць у вас, у журналістаў, салі-дарнасьць якая? У нас, у бамжоў, яна досыць цікавая. Залезеш, бывае, на гарышча, сядзяць. Падзеляцца якім кавалкам хлеба, чарнільца нальюць. Ранкам прачнесься, ні іх няма, ні пяці тысячаў у кішэні. Знайшоў ня так даўно не аблюбаванае нікім гарышча. Жыў колькі дзён. Прылезьлі "свае", у іх дошкі з цьвікамі. Выгналі... Пабадзяесься так, дык на любую мараль забудзесься...

***— Міліцыя не ганяе?***

— Ды не асабліва каб. Што ім клопату больш няма? Толькі калі жыхары выклічуць. А так... Адно каб не сядзелі не жабравалі на іхняй тэрыторыі. Апроч таго, трэба ня "ўлезьці" куды. Апынесься побач з якім здарэньнем – усё на цябе "павесяць".

***— Якія ж яшчэ небясьпекі чакаюць такіх як вы?***

— Хіба ж хто ведае, дзе што яго чакае! Бывае цыгарэту стральнуць паспрабуеш, дык так адмяцелядь, толькі адпаўзаць пасьпявай. Фашыстаў разьвялося. Нейкія скіны. Што мянты? Абы ціха было. Гэтыя ж вырашылі, што яны "санітары вуліц". Лягавыя б'юць, дык меру знаюць, а скіны пакуль не заб'юць – не супакояцца. Падбяруць мінакі, дактары ў трупярню даставяць. А ўвогуле я не скарджуся, жыць можна. Калі б яшчэ дамафонаў столькі не наставілі, дык увогуле... Дзякуй Богу, вясна прыйшла, а то часам замярзаюць мужыкі. Праўда, і маразы ўжо ня тыя сталі...

***— А віны дзяржавы вы не бачыце ў тым што сталася?***

— Прычым тут дзяржава! Сам вінаваты. Гэта мой клопат. Я для яе чалавек непатрэбны, падаткаў не плачу.

***— Кажуць, начлежка ў Мінску нейкая ёсьць...***

— Можа, і ёсьць, але што мне да яе? Там без мяне валацугаў процьма. Што-што а дах над галавою знайду.

***— А сёньняшнія бамжы, хто яны?***

— Ведаеш, ніхто асабліва не вядзе такіх размоваў. Своеасаблівае табу. Нехта шукаў жыцьця лепшага, ды без нічога застаўся... Некаторыя ад вайны беглі: межы ж папяровыя. Хто кватэру прадаў – выпіць не было за што. А хто, як я, лёсам пакрыўджаны...

***— Колькі вы ўжо так бадзяецеся?***

— Год і чатыры месяцы. Летам у Вілейку падамся.

***— А што там?***

— Прыгожа.

***— А зусім зьехаць не хочацца?***

— Ды ну! Што я лепшага дзе знайду? Гэта ж мой горад. Хлебану чарнільца ды прайдуся па парку пралетарскага пісьменьніка Горкага. На душы, глядзіш, і пасьвятлее.

**Вадзім ДОЎНАР.**



Фота "ПнВ"

***P.S.*** **Слова БОМЖ (без определенного места жительства) пакуль так і не займела беларускага адпаведніка. Трэба разумець, яшчэ знойдзе. Бо колькасьць людзей, якія патрапляюць пад гэтую катэгорыю, расьце. Дзяржава ж дапамагаць ім цёплым начлегам і сякім-такім харчаваньнем пакуль не зьбіраецца. Гэтыя людзі ў нас цяпер па-за законам, бо большасьць з іх альбо ня маюць дакументаў, альбо не грамадзяне Беларусі...**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"*